№ 84 (4131)

28 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ФАКТ

## Нараджальнасць перавысіла смяротнасць

Упершыню за шмат год у Беларусі нараджальнасць перавысіла смяротнасць. Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, за першыя 9 месяцаў гэтага года ў краіне нарадзілася 89.434 чалавекі, а памёрла – 88.916. Такім чынам, натуральны прырост насельніцтва склаў 518 чалавек.

Калі параўноўваць з аналагічным перыядам мінулага года, то сёлета нарадзілася на 455 дзяцей болей, а памёрла на 1825 чалавек меней.

СІТУАЦЫЯ

## Дапамаглі дыпламаты

6-гадовы грамадзянін Беларусі ў выніку падману быў вывезены яго бацькам, таксама грамадзянінам Беларусі, у Фінляндыю. Пытанне вяртання дзіцяці вырашалася падчас судовых працэсаў на працягу года.

Як паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі, прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Мірончык**, спачатку фінскі суд на просьбу беларускага боку вярнуць дзіця ў Беларусь адказаў адмовай. Аднак потым, у тым ліку пры дапамозе дыпламатаў двух бакоў, на этапе абскарджвання рашэння суда першай інстанцыі рашэнне было перагледжана на карысць інтарэсаў дзіцяці і яго маці.

24 кастрычніка пры дапамозе пасольства Беларусі ў Фінляндыі дзіця было перададзена на фінскай тэрыторыі яго маці.

СТОЛИЦА



## 550 тысяч евро на Красный костел

В этот году завершается проектирование работ по реставрации здания Красного костела в Минске .

Красный костел, который был построен и освящен 105 лет назад, требует большого ремонта. По мнению специалистов, он находится в полуаварийном состоянии. Протекает кровля на пристройке, разрушается кирпич на стенах, утрачены исторические фрески, надо менять витражи, несвойственные стилистике храма, которые были созданы, когда в костеле располагался Дом кино. И самое главное, устарели все инженерные системы здания.

По словам **Михаила Жиха**, главного инженера УП «Мінская спадчына», на баланс которого два года назад передано здание, сейчас идет согласование проекта реставрации с различными службами, в частности с МЧС. Но пока историки и архитекторы столкнулись с такой проблемой: выполнение строгих норм эксплуатации грозит утратой некоторых исторических особенностей объекта.

На восстановление Красного костела планируется получить европейские гранты в размере 550 тысяч евро.

**Кирилл БУБНОВ.**

ІНІЦЫЯТЫВА




# За бел-чырвона-белы!

У Міністэрства культуры перададзена больш за 12 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі за ўнясенне бел-чырвона-белага сцяга ў спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Акцыя доўжылася месяц. Яна стартавала 19 верасня – у 1991 годзе ў гэты дзень беларуская гістарычная сімволіка набыла статус дзяржаўнай. Актывіст "Маладога фронту" (зарэгістраванага ў Чэхіі) **Зміцер Дашкевіч** на ганку Міністэрства культуры распавёў "Народнай Волі":

– *Больш за дзве з паловай тысячы подпісаў мы сабралі праз сацыяльныя сеткі. Людзі надпісваліся пад петыцыяй. Яшчэ больш за дзесяць з паловай тысяч подпісаў мы сабралі на паперы. Што тычыцца прагнозаў, прызнаюць ці не прызнюць цяперашнія дзяржаўныя чыноўнікі наш сцяг гісторыка-культурнай каштоўнасцю, то мяне гэта хвалюе ў меншай ступені. Не важна, як яны пастаяцца да меркавання народа, важна, што сам народ лічыць свой сцяг сапраўднай каштоўнасцю.*

*Людзі падыходзілі да нас і казалі: "Хачу падпісацца, але вы скажыце шчыра, што мне за гэта будзе. Ці страчу працу, ці будуць праблемы з міліцыяй?" Некаторыя заўважалі: "Ого! Вы тут стаіце пад нашым сцягам, і вас не затрымалі дагэтуль?! Дайце падпішуся!" Галоўнае для нас у гэтай ацыі было кантактаванне з людзьмі. Цяпер мы дакладна ведаем, што пераважная колькасць людзей за тыя сімвалы, якія былі задоўга да нас у нашага народа.*

*Адзін бел-чырвона-белы сцяг мы перадалі ў Міністэрства культуры, а то яны казалі, што ў іх яго няма. Ну вось цяпер будзе.*

Сцяг у канцылярыі, дзе рэгістравалася заява маладафронтаўцаў, супрацоўніцы міністэрства ўзялі, але не дазволілі Дашкевічу павесіць яго на сцяне. Пасля яго ветлівай просьбы размаўляць з ім па-беларуску супрацоўніца перайшла з расійскай мовы на беларускую.

Заяву зарэгістравалі і паведамілі, што трэба будзе яшчэ спраўджваць подпісы. Адказ абяцалі даслаць праз 15 дзён пасля рэгістрацыі заявы, 11 лістапада.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АКЦЫЯ

## Шэсце на Дзяды дазволілі

*Яно пройдзе 30 кастрычніка.*

Як паведаміў "Народнай Волі" намеснік старшыні КХП–БНФ **Юрась Беленькі**, Мінгарвыканкам задаволіў заяўку арганізатараў на правядзенне традыцыйнай жалобнай акцыі, прымеркаванай да Дзядоў.

Збор удзельнікаў – у 11.00 на пляцоўцы каля сталічнага гадзіннікавага завода «Луч». З 11.30 да 15.00 запланаваны праход па вуліцах ва ўрочышча Курапаты, дзе да 17.00 будзе праходзіць жалобны мітынг. Пасля мітынгу ва ўрочышчы ўсталююць драўляны крыж, які ўдзельнікі шэсця будуць несці ўвесь шлях да Курапатаў.

*"Мы запрашаем на мерапрыемства ўсіх неабыякавых людзей, – кажа* **Юрась Беленькі**. *– Дзень памяці продкаў – гэта ўсё ж такі свята..."*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Валянцін Вялічка атрымаў падзяку

Днямі Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб аб'яўленні падзякі шэрагу работнікаў сфер адукацыі, культуры, транспарту, тэлебачання. У ліку адзначаных таксама і Валянцін Вялічка – былы пасол Беларусі ва Украіне. Летам Лукашэнка адправіў яго ў адстаўку. 72-гадовы Вялічка 15 год ачольваў беларускую дыпмісію ў Кіеве. Новага прызначэння ён пакуль не атрымаў, магчыма, будзе заслужана адпачываць. Падзяка Валянціну Вялічку аб'яўлена *«за шматгадовую плённую працу, значны ўклад ва ўмацаванне сяброўскіх адносін з Украінай і развіццё двухбаковага беларуска-украінскага супрацоўніцтва».*

**Святлана САЛАДУХА.**

АКТУАЛІІ



Святлана КАЛІНКІНА

# Хопіць ужо!

Хто б мог падумаць, што давядзецца бараніць беларускую мову ад людзей беларускамоўных і цалкам ёй адданых? Але даўно вядома, што, бывае, робіцца з найлепшых намераў. Вось і ў нашым выпадку некаторыя эксперыменты з "самаідэнтычнасцю" здольныя несці беларускай мове сапраўдную пагрозу.

Днямі была я на прадстаўнічай канферэнцыі. Цудоўная арганізацыя, удзельнікі такія, што радуюцца і душа, і вока. Але… Чытаю праграмку – і раптам разумею, што… разумею далёка не ўсё.

Напрыклад, спатыкнулася на слове "варштат". Нават па гучанні – нейкае зусім не беларускае. Яно адкуль? У якім слоўніку яго можна пабачыць, дзе даведацца, што гэта за з'ява, дзе падгледзець – гэта "ён", "яна" ці "яно"?

На самай справе, слова такое ў шматтомных акадэмічных слоўніках ёсць. Пазначана, што яно выкарыстоўваецца як тэхнічны тэрмін у значэнні "верстак" альбо як спецыфічная тэхнічная прылада для ткацтва. Але, напэўна, вы здагадаліся, што я не на заводзе ці на мануфактуры нейкай была і, канешне, мы там не на кроснах ткалі. Тады што да чаго, і пры чым тут варштат?..

Але далей – болей. Чытаю ў той жа праграмцы: "Фасілітатары варштату…"

А гэта што за цуд такі? Ён адкуль узяўся? Шрубка, вінт, клёпка, матор?.. Што гэта? І якое мае дачыненне да канферэнцыі па грамадска-палітычнай тэматыцы.

У беларускіх слоўніках аніякіх "фасілітатараў" няма. І нават аддалена падобных слоў няма. Ёсць, праўда, лацінскае facilis – "лёгкі, зручны". Яшчэ ёсць англійскі дзеяслоў to facilitate ў значэнні "спрашчаць". Зручны станок, нейкія спрошчаныя прылады і прыстасаванні?.. Але нам на канферэнцыі яны навошта?..

Не ламайце галаву, бо наўрад ці здагадаецеся. На самай справе меліся на ўвазе людзі, якія будуць весці дыскусію. То бок спрашчаць працу ў так бы мовіць "інтэлектуальнай майстэрні" – вось такі складаны лагічны ланцужок. Ён, калі ўжо добра пакапацца ў слоўніках ды даведніках, зразумела, знойдзецца. Але навошта гэта ўсё нагрувашчваць? Ці ў нашай мове слоў не хапае? Ці ўсе беларусы так ужо добра мову ведаюць, што здольныя ацаніць эксперыменты з ёю?

"Усцяж трываюць пратэсты прадпрымальнікаў…"

"У мінулыя содні…"

"Нашы хакеісты сёння выгулялі ў матчы…"

Каго выгулялі? Што выгулялі? Калі па-беларуску, дык выгуляць можна, напрыклад, сабаку. А ў матчы хакеісты могуць перамагчы.

Няма ў слоўніках слова "содні"; не літаратурная норма "усцяж трывае" ў значэнні "доўжыцца, працягваецца". Але гэтыя і падобныя моўныя прыдумкі ўжо пайшлі гуляць нават не па беларускамоўным асяроддзі, а па дакументах і СМІ. І мовазнаўцы не спыняюцца – штампуюць новыя словы, выразы, словаформы адзін паперадзе аднаго. Часам такое ўражанне, што мовазнаўцы і аматары проста наўмысна адшукваюць любыя – польскія, украінскія, нейкія іншыя – моўныя адзінкі і крыху "абеларушчваюць" іх – абы толькі беларуская мова як мага менш была падобная на рускую, каб была як мага далей ад яе.

Я – за прыдумкі і за пошук. Напрыклад, мне вельмі падабаецца беларускі варыянт знакамітага "мабільніка", які прыдумаў наш паэт Леанід Дранько-Майсюк. Ён назваў гэтую сучасную прыладу для сувязі "далькажык" – ад "далёка казаць". Ёмiста, і сэнс зразумелы. Але гэта ж не азначае, што ўжо сёння мы павінны рабіць выгляд, што слова "далькажык" – паўнавартасная адзінка беларускай мовы.

Можа, некалі будзе. Як, напрыклад, адбылося са словам "цемрашал", якое прыдумаў Кандрат Крапіва. Напачатку, як вядома, савецкія атэісты зляпілі слова "мракобес", а Кандрат Крапіва падышоў творча, замяніў "бес" на беларускае – "шал": шалець, шалеюць, ашалелі… І атрымалася цудоўнае змястоўнае слова, па-сапраўднаму беларускае вызначэнне ў пэўным сэнсе на той момант новай з'явы – цемрашальства.

Але навошта замяняць беларускую майстэрню на "варштат" ды яшчэ і з удзелам нейкіх "фасілітатараў"? Каб тыя, хто толькі пачынае вучыць мову, зусім страцілі надзею, а тыя, хто перакананы, што сяк-так мову ведае, расчараваліся?..

Ну колькі можна з нашай мовы здзекавацца?! Колькі можна з беларусаў здзекавацца?! Хопіць ужо!

РАКУРС

# На дзяржаўныя СМІ больш, чым на культуру

*Апублікаваны закон Рэспублікі Беларусь "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2017 год".*



Закон, дарэчы, паспелі прыняць яшчэ дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пятага склікання на сваёй апошняй сесіі 5 кастрычніка. На наступны дзень закон быў адобраны Саветам Рэспублікі. 18 кастрычніка дакумент падпісаў Аляксандр Лукашэнка, але толькі зараз у адкрытым доступе можна азнаёміцца з тым, як улады плануюць размяркоўваць дзяржаўныя грошы ў наступным годзе. Закон апублікаваны на партале pravo.by.

Традыцыйна бюджэт названы сацыяльна накіраваным. І сапраўды, у параўнанні з мінулым годам вырастуць выдаткі на ахову здароўя, навуку, культуру. На медыцыну, напрыклад, плануецца вылучыць 878,7 млн рублёў, і гэта больш як на 100 млн перавышае сёлетнія выдаткі: у 2016 годзе бюджэт аховы здароўя быў 762,8 млн рублёў (*усе лічбы ў тэксце прыводзяцца у дэнамінаваных рублях).*

Прадугледжаны сродкі на дадатковую падтрымку шматдзетных сем'яў для фарміравання сямейнага капіталу ў суме 458 млн, што на 15% больш у параўнанні з 2016 годам. Для выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, асобных відаў пенсій у бюджэт фонду сацыяльнай абароны насельніцтва перадаюцца субвенцыі ў суме 698 млн рублёў.

Таксама больш грошай, чым летась, вылучана на культуру – 90,2 млн рублёў супраць 83,4 мільёна. Але калі параўноўваць гэтыя лічбы з выдаткамі на дзяржаўныя СМІ, то можна зрабіць выснову, што традыцыйна пра БТ, АНТ і г.д. улады клапоцяцца куды больш, чым пра тэатры, музеі, бібліятэкі. На культуру выдаткавана 90,2 млн, а на СМІ – 97,6 млн рублёў. Прычым у адрозненне ад тых жа музеяў і тэатраў, БТ і АНТ добра зарабляюць на рэкламе. Тым не менш Нацыянальная тэлерадыёкампанія атрымае з бюджэту ў 2017 годзе 72 мільёны 569 тысяч 807 рублёў. У леташнім бюджэце гэтая лічба была меншай – 68,2 мільёна.

Незразумела, але факт застаецца фактам: скарочана фінансаванне адукацыі. У бюджэце 2016 года школам, ВНУ, дзіцячым садкам і г.д. агулам было вылучана амаль 830 млн рублёў, а на 2017 год запланавана толькі 808 мільёнаў. Значна скарацілася дзяржаўная падтрымка сельскай і жыллёва-камунальнай гаспадарак, будаўніцтва жылля.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што нязначна выраслі выдаткі на сілавы блок – КДБ, армію, міліцыю.

| Галіна | Выдаткі ў 2017 г., у дэнамінаваных рублях | Выдаткі ў 2016 г., у дэнамінаваных рублях |
|---|---|---|
| Ахова здароўя | 878.781.020,0 | 762.858.167,1 |
| Адукацыя | 808 064 199,0 | 828.974.369,1 |
| Культура | 90.280.276,0 | 83.445.724,9 |
| Сацыяльная палітыка | 1.825.437.658,0 | 1.667.569.904,8 |
| Дапамога сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей | 457.800.000,0 | 200.000.000 |
| Пенсіённае забеспячэнне | 765.762.768,0 | 791.419.5 00,2 |
| Дапамога ў забеспячэнні жыллём | 396.657.244,0 | 564.134.4.26,5 |
| Фізічная культура і спорт | 186.236.676,0 | 170.792.800,4 |
| Сродкі масавай інфармацыі | 97.666.846,0 | 90.012.084,3 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | 6.933.978,0 | 8.312.317,7 |
| Дзяржаўныя органы, якія забяспечваюць дзейнасць прэзідэнта | 19.480.781,0 | 20.181.240,4 |
| Органы ўнутраных спраў | 673178013,0 | 669.118.4 09,5 |
| Органы дзяржаўнай бяспекі | 130.355.411,0 | 130.540.716,1 |
| Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь | 1.026.643.514,0 | 1.008.103.412 |
| Органы судовай улады | 93.835.635.0 | 92.592.920,1 |
| Мытныя органы | 100.496.940,0 | 97.650.998,5 |
| Сельская гаспадарка, рыбагаспадарчая дзейнасць | 719.799.174,0 | 951.469.917,2 |
| Дарожная гаспадарка | 608.427.178,0 | 544.206.737,5 |
| Нацыянальная акадэмія навук | 148.271.363,0 | 147.343.203,5 |
| Саюз пісьменнікаў | 286.905 | 248.152 |
| БРСМ | 6.201.468 | 6.246.768 |

Дарэчы, прафіцыт бюджэту, паводле закона, у 2017 годзе складзе 1496,2 млн рублёў, але гэтыя грошы пойдуць у асноўным на абслугоўванне дзяржаўнага доўгу.

Даходы прадугледжаны ў суме 18.235,2 млн рублёў, або з ростам да чаканага выканання 2016 года на 6,1%. Асноўнымі крыніцамі падатковых даходаў стануць падатак на дададзеную вартасць, акцызы, падатковыя даходы ад знешнеэканамічнай дзейнасці. Выдаткі бюджэту на 2017 год прадугледжваюцца ў суме 16.739,1 млн рублёў, або 98,9% да чаканага выканання 2016 года.

Як размяркоўваўся бюджэт на 2016 год і як плануецца падзяліць бюджэтныя грошы ў 2017-м? Мы вырашылі параўнаць некалькі паказчыкаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

В МИРЕ

## Польша – кандидат в Совет Безопасности ООН

Президент Польши Анджей Дуда и министр иностранных дел Витольд Ващиковски инициировали кампанию по выдвижению Польши в члены Совета Безопасности ООН.

Дуда заявил, что выдвижение кандидатуры Польши – это выражение стремления страны вернуться к активной роли в формировании международного порядка. А глава внешнеполитического ведомства отметил, что «Польша хочет показать себя миру, доказать, что мы не только пассивные потребители безопасности, но и страна, которая способствует росту безопасности путем своей активной дипломатической позиции».

Совет Безопасности ООН – один из главных органов Организации Объединенных Наций, отвечающий за поддержание международного порядка и безопасности. В его состав входят пять постоянных членов (Великобритания, Франция, Китай, Россия, США) и десять непостоянных членов, избираемых на два года.

До настоящего времени Польша входила в Совет Безопасности пять раз, в последний раз – в 1996–1997 годах. Выборы непостоянных членов Совета Безопасности на 2018–2019 гг. пройдут в июне 2017 года. Чтобы получить мандат непостоянного члена Совета Безопасности, страна-кандидат должна получить поддержку 2/3 членов Генеральной Ассамблеи Организации Объединенных Наций.

